

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(28) Красавік 1996 April Год выд. 4


# 10 ГАДОЎ ПАСЬЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ...

## ГЭТАЯ ГЛАБАЛЬНАЯ ЭКАЛАГІЧНАЯ І МАРАЛЬНАЯ КАТАСТРОФА ПАСТАВІЛА БЕЛАРУСЬ НА КАЛЕНІ..

***Усёмагутны Божа! Дапамажы беларусам выбрацца з гэтае бяды!***

**26-га красавіка — прыпадае дзесятая гадавіна Чарнобыльскай катастрофы...**

## ЗВАРОТ

**у сувязі з 10-годзьдзем катастрофы на Чарнобыльскай АЭС**

Набліжаецца сумная 10-я гадавіна Чарнобыльскай катастрофы. Бяда, якая прыйшла на беларускую зямлю ў ноч на 26-га красавіка 1986 года, назаўсёды застанецца ў людзкой памяці як прадасьцярога аб тым, што навукова-тэхнічны прагрэс можа прыносіць і горкія наступствы. Чалавецтва яшчэ ня ведала тэхнагенна-экалагічнай катастрофы такога маштабу.

У гэтыя дні мы яшчэ раз схіляем галовы перад памяцьцю тых, хто не перажыў гэтай страшнай бяды, і зьвяртаем увагу на пакуты людзей, якія спазналі і працягваюць спазнаваць узьдзеяньне радыяцыі. Семдзесят працэнтаў чарнобыльскіх ападкаў прышлося на Беларусь, у сотні разоў узрасла колькасьць захворваньняў ракам шчытападобнай залозы, на 40 працэнтаў зьменшылася нараджальнасьць.

Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча ў самой Беларусі, дзяржава штогод накіроўвае чвэрць нацыянальнага бюджэту як на рэабілітацыю навакольнага асяродзьдзя, так і на мэдыцынскую, сацыяльную абарону насельніцтва, якое пацярпела. Аднак гэтых сродкаў відавочна недастаткова.

Ня менш за матэрыяльную патрэбна маральная падтрымка. Менавіта падтрымка, салідарнасьць ва ўсіх яе праявах — гэта тое адзінае, што аддзяляе ахвяр Чарнобылю ад адчаю.

Мы зьвяртаемся да вас, нашы суайчыньнікі, да ўсіх, каму блізкія і зразумелыя боль і пакуты людзей. Мукі хворых дзяцей і безнадзейнасьць іх бацькоў — па-за палітычнымі рознагалосьсямі. Парайцеся са сваім сэрцам, са сваімі сябрамі, сваякамі і блізкімі і, па магчымасьці, зрабіце свой узнос у высокародную справу пераадольваньня на Бацькаўшчыне чарнобыльскага болю і пакут.

**«... І ўпала зь неба вялікая зорка, палаючы, нібы сьветач, і ўпала на траціну рэк і крыніцы водаў. Імя гэтай зорцы палын*); і траціна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў, бо яны прагорклі» (Я. Багаслоў; 8:10-11)** *)Чарнобыль

*Сяргей Мартынаў*
Пасол Беларусі ў
Злучаных Штатах Амэрыкі



Выдавец «Беларускага Дайджэсту» вітае ўсіх паважаных чытачоў з вялікім хрысьціянскім сьвятам — ВЯЛІКАДНЯ!

***ХРЫСТОС УВАСКРОС!***
***ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!***
РАДУЙЦЕСЯ!



Міхаіл ОБРАЗАЎ, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі чарнобыльскіх арганізацый "26 красавіка"

# Мы не маем права забываць пра катастрофу, нават калі камусьці вельмі гэтага хочацца...

Разважаючы пра 10-годдзе чарнобыльскай трагедыі, якая ўсім светам успрынята як глабальная экалагічная, а да таго ж і маральная катастрофа, трэба зазначыць і тое, што гэта катастрофа для Беларусі, на жаль, не першая. Праз нашу зямлю праходзяць найкарацейшыя шляхі з Захаду на Усход і з Усходу на Захад. Таму нашэсці і войны раз-пораз пракочваліся па ёй. Але Беларусь зноў і зноў адраджалася, як Фенікс з попелу, захоўваючы сваю самабытнасць, традыцыі, культуру.

І гаворачы пра культуру, хацеў бы ўзняць такое пытанне, як захаванне яе вытокаў, духоўных пачаткаў у людзей, што атрымалі самы бязлітасны чарнобыльскі ўдар, — жыхароў найперш Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Гэтае пытанне гранічна важнае ва ўмовах, калі расце смяротнасць, змяншаецца нараджальнасць, калі тысячы пацярпелых ад Чарнобыля адрываюцца ад сваіх каранёў і перaязджаюць у новыя мясціны.

У мінулым годзе Беларуская асацыяцыя чарнобыльскіх арганізацый "26 красавіка" сумесна з Беларускім фондам славянскага пісьменства і культуры ўпершыню правяла вечарыну-сустрэчу пад дэвізам "А жыць трэба". Мы паставілі на мэце разбурыць стэрэатыпнае ўяўленне пра чарнобыльцаў як пра нейкіх "непаўнацэнных" людзей — жабракоў, якія выпрошваюць у дзяржавы міласціну, толькі і чакаюць, што ім нехта нешта дасць... Так, яны і сапраўды маюць патрэбу ў дапамозе. Але ж, з іншага боку, гэта людзі не бязродныя, яны выраслі на гэтай зямлі, атрымалі ў спадчыну ад продкаў багатыя традыцыі. Ім ёсць што захоўваць, ёсць што сказаць і паказаць...

10 гадоў пасля Чарнобыля... З аднаго боку, нас стараюцца запэўніць, што многія чарнобыльскія пытанні ўжо практычна вырашаны. З іншага ж — навукоўцы-дэмографы прагназуюць, што да 2015 года насельніцтва рэспублікі зменшыцца амаль што на мільён чалавек. Калі раней мы лічылі, што колькасць захворванняў на рак шчытападобнай залозы павялічылася ў дзяцей у 10 разоў у параўнанні з дааварыйным перыядам, то зараз Сусветная арганізацыя аховы здароўя называе яшчэ страшнейшую лічбу — у 100 разоў!

А вось група навукоўцаў Беларусі прапануе нам канцэпцыю так званага аднаўленчага перыяду. Што маецца на ўвазе? Тое, што ўсе чарнобыльскія праграмы павінны значна скарачацца, што азначае перш за ўсё перагляд праграмы мерапрыемстваў па пераадоленню вынікаў Чарнобыля, якую прынялі на 1990—1995 гады і на перыяд да 2000 года Вярхоўны Савет мінулага склікання. Калі згаданая канцэпцыя атрымае заканадаўчае зацвярджэнне — нас чакае вельмі змрочная будучыня.

Якое тады мы будзем мець маральнае права звяртацца да сусветнай супольнасці за дапамогай? Нас жа адразу "адфутболяць": маўляў, у вас ёсць навукова-прававая база, якую самі ж зацвярджалі, чаму ж зараз спекулюеце на гэтай тэме?

І якое, прабачце, аднаўленне прадугледжвае канцэпцыя? Няўжо гэта аднаўленне сітуацыі да 1989 года, калі многія людзі нават не ведалі, што жывуць у смяротна небяспечнай зоне, калі карту радыяцыйнага забруджання нельга было знайсці днём з агнём?..



Беларускае дзіця — ахвяра радыяцыі — Чарнобыля...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# The rich and the poor

**In a country seemingly estranged from politics such as Belarus, the evaluation of personal savings and incomes becomes a political issue, writes Galina DRAKOKHRUST.**

For large groups of people, the wage covers but a small percentage of their real incomes. The remaining part, deriving from unofficial and sometimes illegitimate sources, can hardly be recorded for taxation or other purposes. A nation wide survey conducted in 1995 among 1,414 participants, conducted by the opinion poll agency IISEPS became the first step in evaluating the real size of personal incomes and their distribution.

As sociologists, we could not put the question about the size of the people's incomes directly. Very few would tell the truth: some would exaggerate and others would try to seem poorer than they really are. therefore, we decided to examine how the people of Belarus regarded their present financial situation. Replies to this question are also important in predicting the public's future behaviour. According to one pundit, it is not the hungry who revolt, but those who have once been fed. Participants in the poll were asked to state the degree of their poverty or wealth.

Only 8 participants have described themselves as wealthy. Judging by their replies, hardly any of them could be named a Belarusian Rockefeller. Instead, they were either being sarcastic or paradoxically erroneous in describing the degree of their wealth.

Other respondents replied as follows. 26.8% have described their financial situation as poverty, 36.5% as below average, 33.3% as average and only 2.8% as higher than average.

Considering the hidden implications of the word "average" or "middle class" in the Russian language that neither of the two is decent, we may conclude that that very few know what being "middle class" truly means and that the absolute majority of the population sees themselves as poor.

Interestingly enough, the definition of poverty and wealth turned out to be a difficult task to many. Poverty incomes varied anywhere from $20 to $500 per month, whereas wealth began at $100. However, in the latter case the upper limit reached astronomic figures.

Interesting findings were made from the answers to a different question regarding the best place for the public to keep their savings. The greatest percentage of participants (45.1%) sated that they had no savings at all, confirming once again that economic and political tension in this country is approaching a critical level.

Those who did have savings preferred to keep them in foreign currency (31.0%), the Savings bank (13.9%) and precious stones and metals (11.6%). Only a small percentage of participants named shares and other securities as a field of investment. None of those who had described his well-being as 'above average' intended to invest in securities.

A high percentage of those keeping their savings in the Savings bank may be the result of habit. Other replies, however, paint the true picture of the real situation. The reality is that this is not only a country without a healthy securities market but also the place where a regular banking system has been replaced by the jewellery box and American dollars. Considerable amounts of money have thus been taken out of circulation, making matters still worse.

# Ці прыедзе Ельцын у Лельчыцы?

Бываюць падзеі, якія вымушаюць адкласці ўсё ўбок і заняцца толькі імі. Менавіта такой для нас, беларусаў, стала прыняцце Расіі ў Савет Еўропы.

Цяпер Беларусь засталася, па сутнасці, адзінай краінай кантынента (акрамя некаторых рэспублік былой Югаславіі, дзе льецца кроў), якую пакуль не пусцілі ў клуб прыстойных дзяржаў. Усе нашы суседзі — з Поўначы і Поўдня, з Захаду і Усходу — ужо там.

Чаму толькі мы за парогам? За якія грахі? Чаму нават Расію, якая вядзе крывавую бойню ў Чачні, і то прынялі, а Беларусь не? Выходзіць, у нас допускаюцца яшчэ большыя знявагі над людзьмі? Тады якія?

Дарэмна гартаць дзяржаўныя газеты і слухаць Беларускае тэлебачанне, спрабуючы адшукаць адказы на важнейшыя для нас пытанні. У іх пра такое не пішуць і не гавораць. Затое чыноўнікі розных рангаў бясконца сцвярджаюць пра рост аўтарытэту краіны за мяжой і клопаты прэзідэнта пра чалавека працы. Але ж пра якія аўтарытэт і клопаты можна весці гаворку, калі краіна не прынята якраз у аўтарытэтную арганізацыю, пропускам у якую з'яўляецца менавіта павага да чалавека?

Маўчыць пра гэта і парламент, яго фракцыі і камісіі. А яму варта было б распачаць парламенцкія слуханні. Бо тое, што Беларусь да гэтага часу не стала членам Савета Еўропы, хаця яе даўно збіраліся прымаць, сведчыць аб поўным правале прадзімага курсу. Калі ацэньваць вынікі дзейнасці прэзідэнцкай каманды па еўрапейскіх мерках, дык ёй нельга паставіць нават нуль, бо надта выпірае вялікі мінус. Яна ўмудрылася за паўтара года не толькі згубіць многія знешнепалітычныя набыткі, але і так абпляміць сваё аблічча, што цывілізаваныя краіны не спяшаюцца прымаць у сябе беларускага прэзідэнта. Вы ніколі не задумваліся над тым, чаму гэта нават Кучма і Назарбаеў, у якіх з правамі чалавека таксама не надта бліскуча, наведваюць то адну еўрапейскую сталіцу, то другую, а Лукашэнка ездзіць у адзін бок: у Маскву, Сочы?.. Нават цяжка ўявіць, каб, скажам, прэзідэнт Расіі ці канцлер Германіі прыязджалі з візітам у Магілёў ці Лельчыцы па запрашэнню мясцовых улад, а іхні друк выдаваў гэта як небывалы. знешнепалітычны прарыў: маўляў, прымалі іх не дзе-небудзь, а ў саміх Лельчыцах!

Чаму беларускага прэзідэнта не запрашаюць ні Парыж, ні Лондан, ні Бон? Чаму лідэры заходніх краін наведваюць Кіеў, Маскву, Варшаву і абмінаюць Мінск? Чаму Беларусь не прымаюць у Савет Еўропы?

Вось пра што трэба падумаць і прэзідэнту, і тым, хто галасаваў за яго. І асабліва парламенту.

Савет Еўропы вылучыў дзве важнейшыя ўмовы для нашай краіны — наяўнасць дзеяздольнага парламента і спыненне хоць бы грубых парушэнняў правоў чалавека. Вярхоўны Савет ужо выбраны. Праўда, самі выбары праходзілі па не вельмі дэмакратычнаму закону, з грубымі парушэннямі элементарных цывілізаваных нормаў: кандыдаты ў дэпутаты, партыі і рухі не мелі магчымасці выступіць па тэлебачанні, у газетах, улады адкрыта сабатавалі выбары... Ставілася мэта любымі сродкамі не дапусціць у парламент дэмакратычныя, нацыянальныя сілы. І гэта ў вялікай ступені ўладам удалося. Таму цяпер Савет Еўропы хоча прыглядзецца да беларускага парламента.

Засталося выканаць другую ўмову — спыніць рэпрэсіі супраць прафсаюзаў і аднавіць свабоду слова, каб грамадзяне атрымлівалі праўдзівую інфармацыю пра жыццё краіны. Прафсаюзныя аб'яднанні свету ўзнімаюць свой голас у падтрымку беларускіх братоў. Калі іх не пачуюць, калі незалежныя газеты будуць і далей друкавацца за мяжой, то Савета Еўропы не бачыць.

Еўрапейцаў занепакоіла ў пэўнай меры ўсхваленне прэзідэнтам таго "парадку", які быў у Германіі пры Гітлеры, вайна з паветранымі шарамі, адмаўленне ад дзяржаўнай сімволікі і спробы зляпіць "Савецкі Саюз", абсурдныя нападкі на НАТО, заявы наконт павароту да сацыялізму і т.д. Стала відавочна, што ў прэзідэнта некваліфікаваная каманда дарадцаў і яму варта неадкладна ўзмацніць сваё акружэнне калі не інтэлектуаламі, дык хоць бы талковымі спецыялістамі.

Рэзкую змену еўрапейскіх настрояў у адносінах да Беларусі я яскрава адчуў за мяжой. Калі раней да прадстаўнікоў чарнобыльскіх фондаў ішлі і ішлі людзі, пакідаючы грошы і распытваючы, у чым найбольшая патрэба, дык пасля збітага паветранага шара і іншых падзей многія ўжо кідалі ў твар: "І не сорамна столькі гадоў выпрошваць?.."

Нас перастаюць паважаць... Гэта трывожыць!

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

# Музей будзе...

**22 лютага 1996 г. беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі, старшыня Камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня і старшыня БГКТ Ян Сычэўскі падпісалі пагадненне-дамову, якая ў пэўным сэнсе вырашае будучыню Музея. Паводле падпісанай дамовы будзе ён дзяржаўнай установай пры захаванні ўласнасці будынкаў за Камітэтам і ўласнасці зямлі, на якой яны стаяць, за Таварыствам. Ваявода выступіць з прапановай у Раду Міністраў Рэчы Паспалітай, каб тая адвяла адпаведныя сродкі ў бюджэт Ваяводскай управы, якія будуць пасля накіраваны на фінансаванне мерытарычнай дзейнасці Музея і коштаў яго эксплуатацыі. Ваявода падрыхтуе статут Музея і звернецца ў Міністэрства культуры і мастацтва, каб занесці яго ў спісак дзяржаўных музейных устаноў Беластоцкага ваяводства. Захаваная будзе форма кансультацыі ваяводы з уладамі Камітэта і Таварыства пры распрацоўцы статута і вырашэнні кадравых пытанняў. Ваявода выступіць таксама да ломжынскага ваяводы з патрабаваннем вярнуць экспанаты з музея ў Цеханоўцы, якія раней былі ў Беларускім музеі ў Белавежы. Камітэт і Таварыства паводле дамовы аддадуць у карыстанне ваяводы (użyczenie) будынкі А і Ц, дзе арганізаваны будуць выстаўкі экспанатаў. Гэтыя ўстановы распрацуюць таксама праект пастаянных экспазіцый. Дамова заключана на неакрэслены час і кожны з бакоў можа яе скасаваць, папераджаючы аб гэтым партнёраў за 6 месяцаў раней.**

**Кастусь Майсеня паінфармаваў нас, што Музей астаецца ў руках беларусаў, а прытым з'яўляюцца перспектывы хуткага завяршэння яго пабудовы, асабліва таму, што з Беларусі пастаянна плыве дапамога ў выглядзе будаўнічых матэрыялаў.**

*"НІВА"* рэд.

# ЯШЧЭ Ў ПЯЦІ КРАІНАХ З'ЯВЯЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ПАСОЛЬСТВЫ

**У 1996 годзе пасольства Беларусі будзе адкрыта ў Егіпце і Канадзе. Генеральныя консульствы ў гарадах Гаага (Нідэрланды), Бухарэст (Румынія), Рым (Італія) таксама будуць пераўтвораны ў пасольствы.**

Аб гэтым журналістам паведаміў на брыфінгу намеснік міністра замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў. Свае прадстаўніцтвы ў бліжэйшай будучыні Рэспубліка Беларусь адкрые таксама ў Турцыі, Аргенціне, Швецыі і Венгрыі. Каменціруючы перспектывы развіцця адносінаў Беларусі з Іракам (у святле паездкі начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна ў Ірак восенню мінулага года), Міхаіл Хвастоў заявіў, што нічога дрэннага ва ўстанаўленні дыпламатычных адносінаў з гэтай краінай не бачыць, адзначыўшы, што ніводная з дзяржаў не разарвала дыпламатычных адносінаў з Іракам пасля канфлікту ў Персідскім заліве.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.**

# Społeczność żydowska w świecie

Mimo powstania w 1948 r. państwa Izraela przyszłość społeczności żydowskiej w skali światowej jest coraz bardziej niepewna - tak wynika ze sprawozdania, opublikowanego przez Światowy Kongres Żydów (WJC). Według autorów tego raportu Żydzi są narodem, który przechodzi „kryzys ducha oraz tożsamości". Jest to wynikiem zawierania małżeństw z przedstawicielami innych narodowości, oraz skutkiem asymilacji kulturowej. Na fakt ten zwrócił również uwagę naczelny rabin Zjednoczonego Królestwa.

Przewodniczący Światowego Kongresu Żydów Edgar Bronfman uważa, iż „źródłem najbardziej zdradzieckiego zagrożenia dla Żydów i judaizmu jest obecnie nie tradycyjny antysemityzm w jego licznych odmianach, lecz raczej Żydzi, którzy dążą do porzucenia judaizmu". Według opublikowanego sprawozdania na świecie żyje ok. 13 milionów Żydów. Z demograficznego punktu widzenia naród żydowski nie zdołał dotąd zaleczyć ran, powstałych w wyniku holocaustu. Przed II wojną światową na świecie żyło 18 milionów osób wyznania mojżeszowego.

Obecnie najwięcej Żydów, 5,8 mln, mieszka w Stanach Zjednoczonych. Społeczność żydowska w Izraelu liczy ponad 4,6 mln osób. Miastem, które ma najwięcej żydowskich mieszkańców jest Nowy Jork, gdzie żyje ich 1,75 mln. W Jerozolimie, największym mieście Izraela, mieszka 411,9 tys. Żydów; więcej, bo 535 tys., żyje w Miami na Florydzie, a w Los Angeles - 490 tys. osób.

W Polsce w okresie międzywojennym społeczność żydowska liczyła ok. 3,3 mln, t.j. około 10% ogółu obywateli, a ok. 30% mieszkańców miast. W ostatnich latach przed wybuchem wojny nastąpił znaczny wzrost ludności w wyniku napływu do Polski Żydów z Niemiec, prześladowanych przez nazistów. W Polsce, podobnie jak w okresie prześladowań w XIX, XIV i XVw., a zwłaszcza za panowania Kazimierza Wielkiego, znaleźli schronienie i opiekę. Obecnie w Polsce mieszka 30 - 40 tys. Żydów, a liczba ta, według prowizorycznych prognoz, powiększy się w najbliższym dziesięcioleciu do ok. 50 tysięcy.

**ОРАТ**

«Dziennik Polski»

# А. Лукашэнка з усіх сіл стараецца знішчыць незалежнасьць Беларусі

Як сорамна і цяжка наглядаць дзейнасьць "першага прэзыдэнта" Беларусі, які ўсімі магчымымі яму спосабамі імкнецца знішчыць незалежнасьць і сувэрэннасьць Беларусі. Цяпер ужо ясна з якой мэтай і чаму пэўныя чорныя, варожыя сілы прапхнулі Лукашэнку на самую высокую дзяржаўную пасаду ў нашай краіне.

Пасьля зьнішчэньня нацыянальнае сымболікі і тупога прыніжэньня беларускае мовы, культуры і гістарычнае спадчыны, яны ўжо зусім адкрыта пайшлі праломным спосабам далучэньня Беларусі да Расеі. Перадвыбачыя абяцаньні Лукашэнкі былі нічым іншым, як дымнаю заслонаю ягоных праўдзівых антыбеларускіх памкненьняў.

Ці ўдасца прэзыдэнту і яго варожага Беларусі акружэньня зьдзейсьніць гэтую антынародную задуму, — пабачым... ч.

Выдать: Камароўскай З.М.
Основание: з мэтай выдання зборніка „Народныя песні радзімы Я. Коласа"
трыста долараў ЗША руб коп
Приложение:
Главный бухгалтер
Получил: трыста долараў ЗША руб коп
«27» лютага 1996 г. Подпись

**Паквітаваньне аб перадачы $300.оо на выданьне зборніка «Народныя песьні радзімы Я. Коласа». У міжчасе дайшло яшчэ $20.оо ад Спадара В. Шчэцькі, якія перашлем па назначэньні пры першай нагодзе. А можа дойдуць яшчэ далейшыя ахвяры ад землякоў Стаўпеччыны?**

Дзякуем!

# Народ, які не запатрабаваў да гэтага часу свайго Майсея, які дапамог бы яму знішчыць раба ў сабе, будзе жыць так, як і належыць жыць рабам

Сёння, у час навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, пры дапамозе сродкаў масавай інфармацыі чалавек, як ніколі раней, стаў аб'ектам markup рознага роду маніпуляцый. Калі ў краіне няма сапраўднай свабоды слова, чалавеку цяжка зберагчы самастойнасць мыслення, ён ператвараецца ў зомбі. А.Эйнштэйн казаў: "Людзі, самі таго не разумеючы, паддаюцца дрэсіроўцы гэтак жа, як і коні". Менавіта так адбылося з беларусамі падчас мінулагодняга рэферэндуму.

Ва ўмовах адсутнасці дэмакратычных традыцый у грамадстве, поўнай гістарычнай і палітычнай непісьменнасці народа, эканамічнага крызісу, засілля дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі правядзенне рэферэндуму — гэта здзек з самога паняцця народаўладдзя.

Я б пагадзіўся з любой сімволікай, каб тады, у маі мінулага года, усё было зроблена па-людску: калі б у "Гомельскай праўдзе", акрамя перадрукоўкі з "Правды" артыкула "Чужой всадник на белорусском гербе", з'явіўся і іншы пункт гледжання; калі б абмеркаванне ішло ў сродках масавай інфармацыі год-два; калі б за стол перамоў селі навукоўцы і выпрацавалі кампрамісны варыянт сімволікі. Але нічога такога не было.

Меў рацыю А.Гафураў, калі пісаў: "Калі ты выстраліш у мінулае з пісталета, будучае выстраліць у цябе з гарматы". Забарона гістарычна-нацыянальных святынь яшчэ доўга будзе адгукацца ў нашым грамадстве. Да таго часу, пакуль яны не будуць рэабілітаваныя.

Сёння з навін беларускага радыё можна пачуць навіны з якой-небудзь афрыканскай краіны, што недзе болт прыварылі ці гайку закруцілі ў нашай краіне, падрабязнасці спрэчак у Дзяржаўнай думе Расіі і амаль нічога з таго, што цікавіць нас у сваёй краіне. Ствараецца ўражанне, што ў краіне толькі адзін палітык — малады "бацька". Большасць насельніцтва ўжо даўно не давярае сваім сродкам масавай інфармацыі. Расійскія ж фармiруюць нашы адносіны да нашых суседзяў так, як ім гэта выгадна. Таму для беларуса Польшча заўсёды будзе "далёкім замежжам", а Узбекістан — "блізкім". Мы ловім "вуткі", запушчаныя ў наш адрас. Мы жывём чужым жыццём, жыццём чужой краіны, мы па-чужому думаем.

У прэсе жыве прынцып: дзяржава — гэта я. За нашыя кроўныя грошы нас жа і дураць на кожным кроку. У нашай дзяржаве спакойна друкуюцца газеты, у якіх, як слова —дык здзек з нашай дзяржаўнасці. Дзе яшчэ, у якой краіне такое магчыма? Рускамоўныя сродкі масавай інфармацыі выхоўваюць у беларусаў комплекс непаўнацэннасці. Яны (беларусы) не вераць у свае сілы і імкнуцца сесці на шыю расійскаму народу. Што такое дэмаралізацыя ў арміі, ведаюць усе. Што такое дэмаралізацыя ў грамадстве, не ведае ніхто з тых, хто павінен ведаць. Вярхі ўсё яшчэ не могуць дадумацца да таго, што з дэмаралізаваным грамадствам эканоміку не падымеш.

Беларусам убілі ў галаву, што без "старэйшага брата" ён нішто, што разумныя, працавітыя, таленавітыя людзі жывуць дзесьці там, за мяжой, а тут толькі шэрая п'яная маса насельніцтва без роду і племені. Яны ўжо не могуць заўважыць сапраўдныя таленты вакол сябе. Нашы рок-гурты займаюць першыя і другія месцы на конкурсах у Расіі і Англіі, а тут пра іх існаванне і не ведаюць. Не ведаюць толькі таму, што яны беларускія. А яны, не прабіўшы сцяны антынацыянальнай свядомасці, у рэшце рэшт з'язджаюць туды, дзе цэняць не толькі свае таленты, але і чужыя.

У Гомелі жыве Сяргей Іванавіч Кацелявец. Гэты зусім яшчэ малады чалавек на адыходах вытворчасці, якіх поўна на звалках, змог пабудаваць сабе дом у некалькі паверхаў. Гэтага хлопца ведае ўся царкоўная іерархія Смаленска і Пскова. Ён піша іконы, выраблае рознае царкоўнае начынне па ўзноўленых ім старых і вынайдзеных тэхналогіях. Яго запрашаюць у Расію для рэстаўрацыі і рамонту манастыроў і цэркваў. Прычым тое, што мясцовыя майстры робяць за месяцы і за вялікія грошы, ён з памочнікам робіць за тыдзень і амаль задарма. Яго ўсімі сіламі цягнуць у Расію, прапануюць узамен таленту багацці, а ён зноў і зноў вяртаецца на Беларусь, дзе пра яго нічога не ведаюць. І, крый божа, каб і ён з'ехаў, як з'ехалі ўжо з краіны, дзе не паважаюць сябе і сваіх таленавітых суайчыннікаў, тысячы навукоўцаў, урачоў, музыкантаў, лепшых спецыялістаў сферы абслугоўвання — яўрэяў і г.д.

Дома Сяргей працуе ў кааператыве па вырабу надмагільных пліт і помнікаў. Хто ведае пра ягонае існаванне? Яго сябры, якія за чаркай праклінаюць гэтую краіну, якая не бачыць пад нагамі золата і цягнецца за медзю за мяжу. А колькі соцень такіх самародкаў, не запатрабаваных нашым закамплексаваным грамадствам, жыве на Палессі, па ўсёй Беларусі? "Бацькі" ж дзяржавы шукаюць шчасця за мяжой, ходзяць з торбаю жабрацкай па свеце і просяць міласціну. І гэта маючы такі народ?! Паставіць бы гэтых людзей у спрыяльныя ўмовы, і яны паўтораць "цуд" японскі і германскі 50-х гадоў, чэшскі і польскі 90-х. Патрэбна толькі аб'ядноўваючая ідэя, і гэта не ідэя аднаўлення Савецкага Саюза, таму што школьнікі і студэнты, інтэлігенцыя гэтага не жадаюць.

А што ж народ? А народ, не маючы ідэі, на якой можна адрадзіцца, не адчуваючы запатрабаванасці ў сваіх талентах, розуме і майстэрстве, на фоне дзяржаўнага бязладдзя, пакрысе співаецца і крадзе. У краіне, якая не плаціць за працу, ці плаціць усім аднолькава, незалежна ад колькасці працы; у краіне, дзе двое працуючых бацькоў не могуць пракарміць двайх дзяцей, толькі і застаецца красці. А дзяржава забіла ўжо ўсе турмы простымі мужыкамі, якія селі за мех бульбы, і працягвае будаваць новыя турмы для мужыкоў, якія бяруць у яе сваё, заробленае мазалём, але адабранае дзяржавай.

Сапраўдныя ж злачынцы працягваюць разам з дзяржавай абкрадваць беларускі народ, з выгадаю гандлюючы нашымі заводамі, нашымі чыгункамі, нафтаправодамі, нашай незалежнасцю. Народ маўчыць, таму ён многага проста не ведае, паколькі яго, прабачце за рэзкасць, абалваніваюць, замбіруюць у адным накірунку. Мне здаецца, народ больш ні ў што і ні ў каго не верыць. А народ без веры, без надзеі, без ідэй, без маралі, без гістарычнай памяці і нацыянальнай самасвядомасці — гэта цеста, з якога пры дапамозе сродкаў падаўлення і прапаганды можна рабіць што захочаш. І робяць.

Краіна, у якой забараняюцца радыёперадачы і жорстка прэсінгуюцца газеты, што абараняюць яе дзяржаўнасць, і не забараняюцца газеты і грамадскія арганізацыі, якія ўтоптваюць у гразь незалежнасць і абараняючую яе Канстытуцыю; у якой нацыянальна свядомыя людзі з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю; у якой амаль немагчыма знайсці садок і школу, у якіх бы выхоўвалі і навучалі на нацыянальнай, дзяржаўнай мове; у якой "кухаркамі" кіруюць такія ж "кухаркі" па ўзроўню свядомасці; у якой слова "патрыёт" атаясамліваецца са словам "нацыяналіст", а слова "нацыяналіст" з'яўляецца лаянкай і палітычным ярлыком; у якой афіцыйныя дакументы, напісаныя на дзяржаўнай мове, дзяржаўныя служачыя патрабуюць "переписать на человеческом языке"; у якой кіраўнікі адхрышчваюцца ад гісторыі і называюць падручнікі "нацыяналістычнымі", нібы бываюць падручнікі па нацыянальнай гісторыі інтэрнацыяналістычнымі; у якой людзі не ведаюць сваіх каранёў і танцуюць на магілах сваіх продкаў; у якой народ не аб'яднаны агульнай гістарычнай памяццю і агульнай мовай, нацыянальнай самасвядомасцю, не ведае сваіх геапалітычных інтарэсаў; у якой старыя ператвораны ў жабракоў, сіроцтва пастаўлена на патok; у якой нараджальнасць ніжэйшая за смяротнасць; у якой п'янства стала стыхійным бедствам; у якой не паважаецца вытворчая праца і сумленная праца дае найменшы прыбытак; у якой чыноўніцтва жыве па прынцыпу: каб жыць у радасці і шчасці, трэба красці, красці, красці; у якой грамадзяне не з'яўляюцца прыватнымі ўласнікамі; у якой салдаты ўцякаюць з арміі; у якой народ з'яўляецца гістарычна і палітычна непісьменным і гатовы пайсці за любым, хто папулісцкі паабяцае простае выйсце са складанага становішча; у якой маральныя каштоўнасці пастаўлены з ног на галаву, — такая краіна і такі народ, як ні горка казаць, не маюць права спадзявацца на добрую будучыню — гэта проста немагчыма.

Зямля, на якой не выконваюцца самыя асноўныя Божыя запаведзі, не мае права на Божую падтрымку. Народ, які не запатрабаваў да гэтага часу свайго Майсея, які дапамог бы яму знішчыць раба ў сабе, будзе жыць так, як і належыць жыць рабам.

**Юрый КЛІНЦОЎ,**
**настаўнік гісторыі.**
г.Гомель



*Пінска-Івацэвіцкі строй. Пачатак XX ст.*

## ПОБАЧ З ЧЫКАГСКІМІ ГМАХАМІ — ВОБРАЗЫ БЕЛАРУСІ

Выстава жывапісных твораў мастака Юзафа Пучынскага.

Вядомы беларускі мастак Юзаф Пучынскі нядаўна эміграваў у ЗША і цяпер жыве ў Чыкага. 18-га сакавіка ў вялікім холе чыкагскай мэрыі, у Daley Civic Center адкрылася выстава жывапісных твораў Юзафа Пучынскага, арганізаваная намаганьнямі Беларускага Каардынацыйнага Камітэту, спадарынь Веры Рамук і Разэ Фарыны, мэнеджэра з City of Chicago Department of Cultural Affairs.



Янка Купала.

На выставе экспануюцца пэйзажы і партрэты Юзафа Пучынскага, напісаныя ў розныя гады. Тут і маляўнічыя выявы роднай узьдзеншчыны, і «Возера ў Нясьвіжы», і «Вясна ля Лагойску», і «Менск, 1944 год», і «Касьцёл у Нясьвіжы», і «Летні дзень», і «Коні ля ракі» ды іншыя. Прываблiваюць гледачоў такія работы мастака, як «Беларускі матыў», «Царква», «Дзяўчынка з Рудні». Адухаўлёныя твары звычайных беларусаў у такіх партрэтах Юзафа Пучынскага, як «Бабуля Наталя», «Маладая жанчына», «Партрэт М. Карпенкі», «Студэнт» і іншых. Верны сваёй творчай манеры мастак і цяпер, калі ён малюе выявы Чыкага — «Унівэрсытэт Лайола», «Зіма ў Чыкага».

Сваю вельмі вядомую работу — «Партрэт Янкі Купалы» Юзаф Пучынскі падарыў Чыкагскаму Беларускаму Каардынацыйнаму Камітэту.

Выстава прысьвечана чарговай гадавіне 25-га Сакавіка — дню незалежнасьці Беларусі.

Ванкарэм Нікіфаровіч.

## «ЛіМ» у коле дзён піша:

Чытаем газэты, глядзім тэлевізар, сочым наогул за жыццём краіны — палітычным, эканамічным, сацыяльным і г.д. — і паступова нараджаецца і ўмацоўваецца пачуццё, што трымаецца ўсё ў нас на тонкім-тонкім валаску, які вось-вось можа абарвацца. Эканоміка дыхае на ладан, прадпрыемствы запушчаны да стану не запушчальных, прадпрымальніцтва пакладзена на лапаткі, народ абкрадзены, абдураны, зьняверany, дэнацыяналізаваны, дэмаралізаваны... Палітыка і палітыкі ў мірны час заблыталіся ў трох бярозах (чацьвёртая — зьнішчана, як мы памятаем вайной), Прэзыдэнт нічога новага, апроч незабытага старога, прапанаваць ня можа, партыі альбо не рашаюцца пераходзіць у адкрытую апазыцыю ўладам, альбо ня маюць сіл для гэтага, альбо, зноў-жа, ня могуць прапанаваць ідэяў (акрамя, вядома, зьняслаўленай нацыянальнай), якія маглі-б зьяднаць у адзін народ насельніцтва Беларусі... Словам, танюсенькі валасок, які трымаецца выключна на цярплівасьці, талерантнасьці, працавітасьці беларускага народу, у любы момант можа абарвацца. І паляцім мы тады ў такую бездань, такую прорву, у якую не падаў яшчэ ніводзін народ у сьвеце... Пэсімізм? Гора-прароцтва? А вы агледзьцеся. І паразважайце самі.

## Самая апошняя вестка...

Як паведамляюць нашы сябры з Кіева, 29-га сакавіка ў сталіцы Украіны адбылася вялікая дэманстрацыя супраць прэзыдэнта А. Лукашэнкі і яго антыбеларускае палітыкі...



*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Усё будзе залежыць ад таго, ці загаворыць у нас пачуцьцё годнасьці і сораму

(Друкуецца са скарачэньнем)

ЗВЯЗДА

**КОЛЬКІ ЁСЦЬ ДЗЯРЖАЎ НА СВЕЦЕ — кожная ў свой час утваралася, станавілася, умацоўвалася на грунце нацыянальнай ідэі. Ідэі палітычнай, эканамічнай і духоўнай самастойнасці народа, дзяржаўнай незалежнасці краіны. Ад дашкольнага ўзросту грамадзяне засвойваюць гэту ісціну так, што пасля не ўзнікае пытанняў тыпу: хто я — грамадзянін якой дзяржавы? Ці павінен я даражыць і ганарыцца сваёй прыналежнасцю да гэтай краіны? Ці павінен я ведаць мову гэтай зямлі, гэтага народа, часцінкай якога з'яўляюся? Такія пытанні не ўзнікаюць у грамадзян Францыі, Германіі, Венгрыі, Польшчы, Балгарыі і г. д. Не ўзнікаюць — бо проста не могуць узнікнуць. Недарэчнасцю было б задавацца такімі пытаннямі. Там гэта ўсё зразумела само сабою. Унікальнае выключэнне — Рэспубліка Беларусь. Суверэнная дзяржава ў цэнтры Еўропы.**

Чаму ў нас, беларусаў, такі нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці — вялікая тэма для асобнай гаворкі. Цяпер жа магу сказаць толькі адным радком: гэта вынік трагічнага гістарычнага лёсу народа. Пачалася гэта наша трагедыя шмат стагоддзяў назад і доўжыцца па сённяшні дзень. Але якім бы трагічным ні быў шлях — народ ацалеў, выжыў і справядліва прэтэндуе на сваё законнае месца пад сонцам. І выжыў дзякуючы таму, што захаваў сваю мову, бо, як геніяльна сказаў Дастаеўскі, «народ і мова сінонімы», бо зберажэнне мовы ёсць адна з галоўных умоў зберажэння народа. Пакуль жыве мова — жыве і народ. Таму што не толькі народ творыць для сябе мову, але і мова фарміруе народ, аб'ядноўвае яго ў адзінацэласную гістарычную супольнасць, робіць яго нацыяй.

Праблема выжывання мовы, бясспрэчна, ёсць праблема выжывання народа, некалькі думак наконт гэтага выжывання і хацелася б выказаць.

## ТАДЫ — ЗРАЗУМЕЛІ, А СЁННЯ...

Мова, хоць і даецца кожнаму народу Богам, патрабуе пільнай увагі ад уладаў зямных. Дзяржаўная моўная палітыка больш-менш цвёрда праводзіцца ва ўсіх краінах свету. Праводзілася яна і ў былым СССР (адпаведна і ў БССР). Сутнасць яе месцілася ў адным слове: зліццё. Зліць усе мовы ў адну — і толькі! Зліць — паколькі і ўсе нацыі зліваюцца ў адну савецкую нацыю (у адну «новую гістарычную супольнасць — савецкі народ»). Дзеля чаго быў узяты гэты курс на зліццё — зразумела, а вось наколькі гэта мудра і ці рэальная гэта задача — Крэмль не задумваўся.

Як і трэба было чакаць, абсурдная нацыянальная палітыка дала непазбежную трэшчыну. Ды якую трэшчыну! Трэск пайшоў-пакаціўся на цэлы свет! І да розуму правадыроў нарэшце дайшло: СССР — гэта не Злучаныя Штаты, дзе мясцовых абарыгенаў («тутэйшых») можна трымаць у рэзервацыях і не лічыцца з імі (хоць ужо і там пачалі з індзейцамі лічыцца). Грузіны, армяне, узбекі, таджыкі мелі сваю вялікую і слынную культуру 1500 і больш гадоў назад — калі пра «рускіх» на свеце яшчэ ніхто не чуў. Тысячагадовую, як і Расія, культуру мелі Украіна, Беларусь, Азербайджан, Літва, Латвія, Эстонія. Не дзікія, «прымітыўныя», непісьменныя плямёны, якія можна лёгка асіміляваць, «растварыць» у іншай вялікай этнічнай масе, а сучасныя цывілізаваныя нацыі, з высокаразвітай нацыянальнай культурай, літаратурай, мастацтвам, з высокім пачуццём нацыянальнай годнасці, угрунтаваным, між іншага, і на гістарычнай памяці аб часах сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Пара «трэшчыны» і затым расколу (развалу) наспявала і аб'ектыўна, сама па сабе, але вельмі прыспешвалася праваднікамі неразумнай, хамскай і, я сказаў бы, злачыннай нацыянальнай палітыкі. Так браць за горла нацыянальную школу, так выкарчоўваць, выганяць адусюль Богам дадзеную мову, як гэта рабілася, напрыклад, у нас, у Беларусі або на Украіне, учыняць такі нацыянальны генацыд і пры гэтым яшчэ крычаць пра раўнапраўе, пра братэрства, — ну дык было б дзіўна і неверагодна, каб сціснутыя за горла не ўзбунтаваліся, каб не дайшло да выбуху і да распаду імперыі (у Расіі гэтай назвай карыстаюцца спакойна, не саромячыся, як і ў часы Кацярын, Мікалаяў, Аляксандраў...).

Пра ўсё гэта ёсць пільная патрэба гаварыць, таму што і дагэтуль частка адукаванага народу не зразумела «прычыны прычын» і ўсё яшчэ думае, што ўся віна-бяда ў «кучцы нацыяналістаў»: расправіцца б з імі — і «делу венец». Гэтыя адукаваныя не разумеюць таго, што зразумелі пад націскам інтэлігенцыі ў канцы 1980-х крамлёўскія правадыры. Нагадаю: менавіта тады з найвысокіх партыйных трыбун прагучала: у галіне нацыянальна-культурнай палітыкі трэба нешта істотна мяняць, — пакуль «не выбухнула», — і перш за ўсё трэба рашуча змяніць адносіны да нацыянальнай мовы асноўнага карэннага насельніцтва кожнай рэспублікі. Тады правадыры гэта зразумелі, а сёння зноў пачынаюць гаварыць: ніякіх праблем з беларускай мовай у Беларусі няма, яны ствараюцца штучна. І гэта — на поўным сур'ёзе. Ну, што ж. вядома: калі нехта ў думках ужо змірыўся з тым, што беларускай мове наканавана смерць або нават вельмі хоча гэтага — дык для яго праблем ніякіх, такому таварышу ўсё ясна: хай коціцца і далей, як дагэтуль кацілася. Бо на самой справе — праблема ёсць, і неймаверна складаная праблема. І надзвычайнай важнасці праблема, ад вырашэння якой у значнай меры залежыць паспяховае вырашэнне праблем іншых: і палітычных, і сацыяльных, і экалагічных, і нават эканамічных. Толькі пра гэта трэба думаць, а не раздражняцца і адмахвацца.

## ПАМЫЛКА, І ВЕЛЬМІ ВЯЛІКАЯ...

У студзені 1990 г. у Беларусі, пры падтрымцы ЦК КПБ быў прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова стала дзяржаўнай. Гэта быў адзіны рэальны спосаб выправіць становішча і выратаваць беларускую мову ад канчатковага сыходу з гістарычнай арэны. Добры, у цэлым памяркоўны, прадуманы закон, пацверджаны пазней Канстытуцыяй. Добры і абсалютна справядлівы ў дачыненні да іншых моў у Беларусі. У прыватнасці, рускай мове па закону адведзена вельмі значная роля ў грамадскім жыцці рэспублікі; настолькі значная, што вымагаць яшчэ большага — гэта ўжо не проста нясціпла, гэта ўжо, выбачайце, злачынна ў дачыненні да беларускай мовы, месца якой практычна будзе зводзіцца тым самым на нішто, як гэта і рабілася ў нас на працягу дзесяцігоддзяў. Добры, справядлівы закон трэба было спакойна і паслядоўна выконваць — і ўсё б ішло як мае быць, хоць і з пэўнымі зразумелымі цяжкасцямі. Зрэшты, так яно і пачалося ісці. Але выконваць закон многім не хацелася — асабліва тым, якія зразумелі, што гэткім шляхам Беларусь будзе духоўна, маральна і палітычна дужэць як суверэнная незалежная дзяржава. І тады пачалі мусіраваць ідэю рэферэндума. Ніякай патрэбы ў рэферэндуме па мове не было. Але ініцыятары яго разумелі, што пры сённяшнім узроўні нацыянальнай свядомасці беларускага народа на гэтай ідэі можна спекульнуць і выйграць — можна моўную сітуацыю адкруціць назад, вярнуцца да таго, што было. І рэферэндум адбыўся. І сапраўды — усё тут жа пакацілася назад, раптоўна і рашуча змяніўся настрой у грамадстве і пайшлі практычныя распараджэнні наконт таго, як ліквідаваць першыя, яшчэ ледзь прыкметныя поспехі ў выкананні закона, у ажыццяўленні мудрай моўнай палітыкі. Так, так, шаноўны чытач, **мудрай**, бо мудрае толькі тое, што справядлівае, а адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры — справа гістарычна справядлівая, у найвышэйшай ступені справядлівая!

Тыя, што прагаласавалі за дзве дзяржаўныя мовы па недасведчанасці, зрабілі памылку. Ну, што ж, Бог ім суддзя. Але памыляюцца і свядомыя ініцыятары рэферэндума, калі думаюць, што атрымалі перамогу. Перамогу над кім і над чым? Над мовай свайго народа? Але ж гэта значыць і над самім народам! Такая перамога можа быць толькі часовай. У чым — раней ці пазней — і давядзецца перакanацца. Добра было б, каб «пераможцы», зразумеўшы гэта, пакаяліся. І не праводзілі вынікі рэферэндума ні праз законы, ні праз Канстытуцыю. На вялікі жаль, пакуль што не бачна, што яны да гэтага мужнага кроку гатовы. Ці хоць задумваюцца над злачыннай «памылкай».

## НАІЎНАСЦЬ ЦІ... ЗВЫКЛАЯ СЕРВІЛЬНАСЦЬ?

Цяпер асобныя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі просяць, каб урад выконваў волю рэферэндума, а менавіта: каб і беларускай і рускай мовам было забяспечана роўнае становішча. Маўляў, мы ж вам паверылі, аддалі свае галасы за дзяржаўнае двухмоўе, дык вы ўжо нас не ашукайце. Вы ж зразумейце, што мы ўсё-такі патрыёты роднай мовы, ды і пішам на ёй, раманы і п'есы ствараем, ды і наогул мова павінна жыць... І чуюць нашы шаноўныя прасіцелі ў адказ: ды канешне, канешне! Пра што гаворка! Беларускую мову, як і ўсю беларускую культуру, мы ў крыўду не дадзім. Будзем клапаціцца! Абавязкова!.. І шчаслівыя прасіцелі шчыра дзякуюць.

А тым часам... А тым часам беларускія школы і беларускія класы ліквідуюцца, выпускны пісьмовы экзамен па беларускай мове ў школах адмяняецца, перавод справаводства на беларускую мову запыняецца, тыражы беларускіх кніг і перыядычных выданняў рэзка падаюць, абласныя і многія раённыя газеты становяцца фактычна рускамоўнымі і г. д. і г. д. і г. д. А прасіцелі ў разгубленасці разводзяць рукамі: ну, абяцалі ж, ну, абяцалі ж, га? Ну, мне ж самому абяцалі!..

Ах, мае мілыя прасіцелі! Ну няўжо вы сапраўды такія наіўныя! Няўжо вы сапраўды не разумееце, што пасля таго, што адбылося — пасля вашага «за» на рэферэндуме, з нашаю моваю будзе рабіцца толькі тое, што робіцца, што іншага проста быць не можа? Не можа, таму што дзве мовы ў аднолькава раўнапраўным дзяржаўна-афіцыйным становішчы знаходзіцца не могуць — нават калі б хтонебудзь і вельмі гэтага хацеў. Гісторыя цывілізацыі такога не ведае, а ведае іншае: адна з дзвюх моў будзе пераважаць, будзе ва ўсіх сферах жыцця займаць усё больш пануючае становішча, выцясняючы «саперніцу» на задворкі. Дый паспрабуйце ўявіць у рэальнасці раўнамернае карыстанне абедзвюма мовамі — не на побытавым узроўні, а на афіцыйна-службовым. Адны міністэрствы і ведамствы, заводы і фабрыкі вядуць справаводства на беларускай, а другія на рускай, так? У адным вайсковым гарнізоне каманды падаюцца на беларускай мове, а ў суседнім — на рускай, ці як? Ці і там і там адразу на абедзвюх? Кожны афіцыйны дакумент, кожная пастанова ці распараджэнне — ад Кабінета Міністраў да сельсавета — абавязкова афармляюцца і на рускай і на беларускай, так? Бо інакш — якое ж раўнапраўе? Інакш — бясконцыя прычыны для канфліктавання, для ўзаемнай крыўды. Ва унітарнай (а не федэратыўнай, як Канада ці Швейцарыя) краіне дзяржаўнае двухмоўе вельмі хутка пяройдзе ў дзяржаўнае аднамоўе.

Вы, шаноўныя чытачы, выдатна разумееце, якая з дзвюх афіцыйных моў будзе займаць у нас пануючае становішча — тая, якая займае яго і цяпер. Не з нейкай жа ілюзорнай нулявой сітуацыі пачнем вырашаць праблему, а з рэальнай і канкрэтнай, дзе беларуская мова даведзена да становішча «падчаркі», выцеснена ў грамадскім жыцці амаль адусюль — засталіся адно невялічкія астраўкі, дзе яна яшчэ дыхае: мастацкая літаратура, некалькі тэатраў, некалькі дзесяткаў школ, некалькі часопісаў і газет, некалькі перадач на працягу дня па радыё і тэлебачанні. І яшчэ два-тры дэпутаты ў Вярхоўным Савеце, з вуснаў якіх за трыбунай гучыць дзяржаўная беларуская мова... Што ж прапануецца, каб спачатку зрабіць роўным рэальнае становішча «абедзвюх»? Нічога. Усё, што пачало ў гэтай сферы рабіцца пасля рэферэндума, скіравана на тое, каб беларускую мову дабіць канчаткова. Каб даастатку выцесніць яе і адтуль, дзе яна яшчэ ліпіць, трымаецца на валаску. Калі гэта не так, як я кажу, дык што замінае вам, шаноўныя змагары за раўнапраўе «абедзвюх», абвергнуць сказанае рэальнымі фактамі? Давядзіце канкрэтнымі выкладкамі, што Законы аб мовах і аб адукацыі, якіх ніхто не адмяняў, паспяхова ці хоць бы збольшага выконваюцца, што палітычны курс на рэстаўрацыю абсурднай ідэі «зліцця» не праводзіцца ў Беларусі — і спыніцца ўсякая па гэтым пытанні палеміка. Але ж толькі сляпы можа не бачыць, што менавіта такі палітычны курс паўсюдна набірае ў краіне сілу, што рэстаўрацыя мінулага ўсямерна стымулюецца ўладамі.

Дзяржаўная мова канешне ж будзе ў дзяржаве адна, а вось якая — гэта ўжо залежыць ад таго, ці ачнецца ў нас, дочак і сыноў Беларусі, пачуццё годнасці і сораму. Калі ачнецца — то будзе так, як запісана ў Канстытуцыі: дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Ну, а калі не ачнецца, калі душа не ўзбунтуецца ад ганьбы і сораму за свае адносіны да мовы зямлі, на якой жывём, калі пачуццё нацыянальнай годнасці не прагаворыць у нас, тады, як то кажуць, няма чаго і плот гарадзіць, гуляць на вачах свету ў суверэннасць, у незалежнасць і іншыя недаступныя нам паняцці.

## А КАЛІ БЕЗ ХЛУСНІ І ЦЫНІЗМУ?

Калі толькі-толькі — абачліва і нясмела — пачаў ажыццяўляцца Закон аб мовах — тут жа загучалі галасы пратэсту: «Не насаджайце сілком беларускую мову! Не бярыце за горла!»

Выбачайце, але — што значыць «сілком»? Патрабаваць выканання Закона — гэта «сілком»? Калі нешта ўводзіцца ў жыццё паводле Закона, робіцца законна — чаму вы гэта ўспрымаеце як гвалт, як «сілком»? Скажыце: ну, а выганяць беларускую мову як мову навучання са школ у Беларусі — можна было? А выгналі ж начыста амаль з усіх школ — за выняткам некаторых вясковых, у глыбінцы! Гэта было не «сілком», не «гвалтам»? Ах, добраахвотна? Па волі бацькоў? Ну, а калі без хлусні і цынізму? Калі без цынізму — дык у бацькоў, г. зн. у мільёнаў простых людзей Беларусі — ніхто згоды не пытаўся. Ім толькі сказалі: беларуская мова вашым дзецям нідзе ў жыцці не спатрэбіцца — ні далей у вучобе, у інстытутах і універсітэтах, ні на заводах і фабрыках, ні на службе ва ўстановах, ні ў арміі — нідзе! Дык навошта на гэтай мове іх вучыць і выхоўваць? Навошта адбіраць у іх перспектыўную будучыню? Ці вы сваім дзецям ворагі, зла ім жадаеце?

Вось так — калі без хлусні і цынізму, панове-таварышы. Правільна: навошта на гэтай мове вучыць і выхоўваць — калі яна нідзе не будзе патрэбна? Ну, а чаму ж гэта, шаноўныя-паважаныя, беларускаму народу на сваёй жа беларускай зямлі нідзе не спатрэбіцца свая ж беларуская мова? На гэта пытанне вы можаце адказаць без хлусні і цынізму? Не можаце? А чаму? Сумлення і мужнасці нестае? А адказ жа ёсць! Вось ён: «В северо-западном крае так называемый белорусский язык необходимо свести на нет, по тому что если этого не сделать, он будет постоянно инспирировать

мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя». Вось і ўсё! Поўны і дакладны адказ. Не пазначаю адкуль цытата, бо ў XIX ст. падобнае выказвалася ў друку безліч разоў — тады асімілятары яшчэ не баяліся публічнасці і душой не крывілі; гэта пазней у XX ст. — сапраўдныя імперскія намеры і мэты пачалі прыкрываць сцягам інтэрнацыяналізму.

Дык і што ж выходзіць? А выходзіць, што ў адных, прычым у аснoўных карэнных насельнікаў краіны, сілком адабраць іх родную мову можна, вярнуць мову народу — прычым, кіруючыся Законам, — няможна, нельга, бо гэта ўжо, бачыце, гвалт, гэта — прымус, гэта — парушэнне правоў асобы. Дык жа здорава выходзіць, ці не праўда? І па справядлівасці, і ў згодзе з мараллю. А, можа, нават скажаце, што і па волі Усявышняга?

Ніколі яшчэ на беларускай зямлі не было такой агрэсіўнай нянавісці да нашай мовы, да справы беларускага нацыянальнага адраджэння, як у самы апошні час, дакладней — пасля рэферэндума. Хамы распаразаліся неймаверна, публічна абражаюць мову аж да таго, што абзываюць яе фашысцкай, зневажаюць нацыянальную годнасць народа, плююючы тым самым на Канстытуцыю. Так зразумелі і ўспрынялі вынікі рэферэндума «жандары ў фраках і ў белых манішках»: ён даў ім права на беспакаранае хамства. А «на версе», кіраўнікі краіны і народа, як быццам і не бачаць гэтага і нічога не ведаюць: каб хоць адно слова асуджэння, каб хоць адна спроба асадзіць ашалелых хамулаў!

Вельмі брыдка чытаць і слухаць тых «абаронцаў» рускай мовы ў Беларусі, якія на нацыянальна свядомую беларускую інтэлігенцыю навешваюць паклёпніцкія ярлыкі, абвінавачваюць яе ў распальванні антырускіх настрояў, у імкненні адарваць грамадзян рэспублікі ад культуры, літаратуры, мастацтва і навуковых дасягненняў *Расіі. Я не ведаю ніводнага* сур'ёзнага беларускага пісьменніка, кампазітара, мастака, артыста, які б трымаўся падобных абскурантысцкіх пагляадў, прапаведваў ідэі нацыянальнай самаізаляцыі і адчужэння ад духоўнай культуры братняга рускага народа. Русафобіі як з'явы ў нас няма, бо гэта зусім не адпавядае менталітэту і душэўнаму настрою беларускага народа. Наш народ ніколі спіною да братняга рускага народа не павернецца.

На вялікі жаль, тым, хто і сёння трымаецца стратэгічнага курсу на асіміляцыю беларусаў, узаемапавага на роўных непатрэбная, ім патрэбна іншае, зусім іншае... Ніякага суверэнітэту і незалежнасці! Ніякай «самостийности», як любяць яны крыўляць мову братоў украінцаў. Але ж хіба магчыма дасягнуць узаемаразумення і згоды, калі адны хочуць самі быць на сваёй зямлі гаспадарамі, хочуць самі распараджацца сваім лёсам, а другія хочуць ім у гэтым адмовіць, хочуць дыктаваць першым сваю волю? Так можна дасягнуць толькі абвастрэння і канфрантацыі ў нашым і без таго сацыяльна і псіхалагічна разладжаным грамадстве...

## НАС ЗНОЎ СТАЛА МЕНШ

**Паводле папярэдніх даных упраўлення статыстыкі насельніцтва Дзяржкамстата, на 1 студзеня 1996 года ў Беларусі пражывала 10 мільёнаў 315 тысяч чалавек. Такім чынам, колькасць жыхароў нашай рэспублікі зменшылася за мінулы год прыкладна на 30 тысяч.**

Сумна, але насельніцтва краіны па-ранейшаму змяншаецца пераважна натуральным шляхам: у 1995 годзе колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 28 тысяч чалавек. Змяншэнне яшчэ на дзве тысячы сталася вынікам міграцыйных працэсаў. Відаць па ўсім, Беларусь перастае быць жаданай для грамадзян іншых краін, і ў першую чаргу краін блізкага замежжа.

**Сяргей ГРЫБ.**

# *ГАЛЬГОФА*
# айца Канстанціна

... Харошы быў бацюшка, пакінуў сярод людзей Шаркоўшчыны і навакольля, а прыход уключаў 45 вёсак, добрую памяць аб сабе. Але не таму ў Сьвята-Усьпенскай царкве сёньня можна ўбачыць яго партрэт з гадамі жыцьця — 1875-1918. Што ўвогуле не ўласьціва для праваслаўных храмаў. Айцу Канстанціну выпала прайсьці свой шлях на Гальгофу ў самы першы пэрыяд крываваай барацьбы бальшавікоў з «опіумом народа». Яго арыштавалі якраз у той пэрыяд, калі выконваўся паўсюдна на абшарах былой Расійскай імпэрыі цыркуляр Леніна: чым больш асоб духоўнага званьня будзе зьнішчана, тым лепш для савецкай улады. І айца Канстанціна з самага пачатку чакаў адзін прысуд. Ніхто і не зьбіраўся праводзіць якое небудзь сьледзтва, судовы разбор. Арыштавалі паважанага сьвятара людзі малапісьменныя, якія па волі лёсу і рэвалюцыі ўзялі ў рукі зброю. І гэтым, толькі гэтым, узьнялі сябе над астатнімі людзьмі, займелі права караць альбо мілаваць.

Але распраўіцца са сьвятаром, які карыстаўся ў народзе такой павагай, на месцы нават яны пабаяліся...Арыштаванага пераводзяць у павятовы горад Дзісну... Разам з арыштаваным прыбылі ў Дзісну і тыя, каму было наканавана стаць катамі — Фама Бацьвіёнак, Аляксандр Ліпскі і Міхаіл Ваштай. Памяць людзкая захавала гэтыя імёны... Былі катаваньні, былі зьдзекі. І вось прыйшоў час, калі п'яныя выканаўцы «рэвалюцыйнага прысуду» павялі айца, Канстанціна і сьвятара Міхаіла Сокалава на расстрэл. Па дарозе айцец Міхаіл прапанаваў свайму таварышу па няшчасьці зьдзейсьніць спробу ўцёкаў. Але айцец Канстанцін адказаў: «Я нікому нічога дрэннага не зрабіў». На месцы расстрэлу айцец Міхаіл стаў здымаць расу, скарыстаўшы гэта, кінуўся за кусты, уцёк. Канваіры-ж п'яныя. Людзі дапамаглі яму схавацца, забяспечылі вопраткай. Потым айцец Міхаіл доўгі час служыў сьвятаром недзе ля Вільні. У час знаходжаньня Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы ў яго спрабавалі распытаць пра выканаўцаў, тых хто расстрэльваў сьвятароў. Але айцец Міхаіл спасылаўся на дрэнную памяць...

А між тым у Шаркоўшчыне сабралі подпісы пад просьбай адпусьціць свайго духоўнага пастыра. Марыя Шаблоўская паехала ў Дзісну. Айца Канстанціна ўжо ня было ў жывых. Жанчына разам з І. Атрахімовічам і сваёй сястрой Г. Цітовіч адкапалі цела настаяцеля і пахавалі яго пад алтаром Дзісьненскай царквы, што на могілках... Калі раскапалі яму то ўбачылі, што айцец Канстанцін ня быў застрэлены. Яго толькі паранілі ў вуха і закапалі непрытомным. Ачуняўшы, пакутнік паспрабаваў выбрацца са сваёй магілы. Але не хапіла сіл, паветра. Да паверхні зямлі застаўся нейкі вяршок.

А што-ж забойцы?.. Лёс Ліпскага невядомы. Бацьвіёнакужо пры Польшчы за зьдзейсьненае адседзеў сем гадоў у турме, вярнуўся на радзіму. Было гэта ў жніўні... ідзе ён, пад капелюшом, з трасьцінкай. Не згаварваючыся, кінуліся людзі насустрач забойцу сьвятара і пакачалі яго добра. А з М. Ваштаем гісторыя ўвогуле містычная... Памёр Ваштай у 1951 годзе, быў судзьдзёй. І жонка нябожчыка пахавала яго побач з магілай айца М. Занковіча, сьвятара другой шаркоўшчынскай царквы. Яны жылі па суседзтву, бывала, што спрачаліся на рэлігійныя тэмы. Удава заявіла: «Яны спрачаліся тут — няхай і там спрачаюцца, а мы ўбачым, чыя праўда». Але адразу пасьля пахаваньня М. Ваштая ён амаль кожную ноч стаў зьяўляцца ў сьне ўдаве, сваякам. Прасіў іх перахаваць, гаварыў, што яму няма там месца, не дае спакою сьвятар. Людзі раілі ўдаве маліцца, ахвяраваць на царкву. Яна гэта і рабіла. А калі прыйшла вясна, перахавала мужа на ўскрайку могілак. Калі адчынілі труну, убачылі, што цела Ваштая перавернута тварам уніз. Пасьля гэтага ўдава прадала дом і зьехала з Шаркоўшчыны.

Увогуле тэму злачынства і пакараньня можна было-б працягваць далей. У час вайны ў Дзісьненскай царкве служыў айцец Мікалай Каткоўскі. Ведаў ён пра справы бальшавікоў у першыя гады пасьля Кастрычніка, ведаў пра айца Канстанціна. Але менавіта ён выратаваў у той час шмат дзісьненскіх бальшавікоў. Слова сьвятара было важным для акупацыйных улад. І калі ён пацьверджаў, што гэты чалавек з камуністамі нічога агульнага ня меў. сьвятару верылі, чалавека адпускалі. І сёньня ў невялікім гарадку жывуць тыя, хто павінен быць да канца дзён сваіх удзячны айцу Мікалаю.

А як-жа аддзячылі бальшавікі? Адразу пасьля выгнаньня немцаў, яшчэ вайна не скончылася, сьвятару было заяўлена, што калі не жадае ён апынуцца там, дзе шмат месяцаў зіма, хай зачыняе царкву ў цэнтры гарадка і перабіраецца ў царкву на могілках. Там існаваньне храма яшчэ было дазволена. Сам айцец Мікалай памёр у 1970 г. А дачка Зіна жыве. Шмат пакут прыняла яна ад гэтай улады. Усё жыцьцё ёй не давалі працаваць... Так і жыла, дапамагаючы людзям. прыслужваючы ля царквы. Толькі нядаўна яна атрымала пэнсію...

З рознымі людзьмі сустракаўся і размаўляў я ў час той паездкі ў Шаркаўшчынскі і Міёрскі раёны. Сьвятары, людзі сталага веку, інтэлігенты, прадстаўнікі савецкай улады. Карэнным чынам зьмяніліся часы. Нельга сьцьвярджаць, што неадваротна, пакуль што адносіны царквы і дзяржавы не ўрэгуляваны законам. Але, безумоўна, сьляпога і ваяўнічага атэізму ўжо амаль няма ў людзях. Ёсьць разуменьне неабходнасьці духоўнага ўдасканаленьня...

У Шаркоўшчыне пазнаёміўся з Алегам Садоўскім, старастам Сьвята-Усьпенскай царквы. Менавіта, дзякуючы ў многім яго стараньням, руплівасьці прыйшло зноў да вернікаў і да нас з вамі імя пакутніка айца Канстанціна, прыйшло, каб застацца назаўжды.

Якое сёньняшняе жыцьцё прыходу. Каля тысячы чалавек у ім, ёсьць і моладзь, болей яе. Але, паводле слоў Садоўскага, адчуваецца яе адбітасьць ад царквы. Пераймаюць пакуль што толькі зьнешняе, а веры ўнутранай, галоўнай яшчэ няма, яе трэба яшчэ сьпяліць. Няма ў прыходзе сьвятара. Стары паехаў на радзіму. А новыя прыедуць, пабудуць і ад'язджаюць. Няма кватэры. Хоць разам з царквою і побач з царквою пабудаваны яшчэ Ждановым два дамы. Адзін для сьвятара, другі для псаломшчыка і для вернікаў...

*Алесь Касьцень*

(Скарочана, паводле раённае газэты «Сьцяг працы»)

## *СТАРАЯ ПОКАЗКА...*

Чарговыя акупанты павесілі беларуса. Прыходзяць да шыбеніцы назаўтра — а ён жывы. Прыходзяць праз тыдзень — жывы. Праз месяц — жывы. Пытаюцца тады акупанты ў беларуса, як-жа яму ўдалося выжыць. «Ат, — адказвае беларус, — спачатку муляла трохі вяроўка, а потым прыцярпеўся...»

**У верасьні 1991-га году**
**<u>бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня</u>**
**ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі**
**незалежнай Беларусі.**
**Шануйма-ж іх!**

# Доўгачаканы слоўнік

Кожны, хто ў нашых умовах піша і чытае на беларускай мове, адчувае недахоп польска-беларускіх і беларуска-польскіх слоўнікаў, а выдадзены ў 1962 годзе пад рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай і Мікалая Бірылы „Падручны польска-беларускі слоўнік" стаў ужо антыкварным рарытэтам. І вось на днях у кнігарнях з'явіўся ў продажы „Беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнік"*, складзены Тэрэсай Ясінскай і Альбертам Барташэвічам, навукоўцамі Варшаўскага універсітэта. У слоўніку — у абедзвюх частках — змешчана 15 тысяч слоў і прыкладаў іх прымянення, прыведзены ўстойлівыя выразы і фразеалагізмы. У канцы даюцца яшчэ геаграфічныя назвы і скарачэнні, а таксама кароткая інфармацыя пра важнейшыя асаблівасці беларускай мовы.

У прадмове складальнікі адзначаюць, што слоўнік мае рэцэптыўна-прадуктыўны характар, а карыстацца могуць ім усе, хто ведае польскую і беларускую мовы, прынамсі на пачатковым узроўні. Разлічаны ён перш за ўсё як дапаможнік для вучняў пачатковых і сярэдніх школ з беларускай мовай навучання, а таксама для студэнтаў беларускай і славянскай філалогій.

Гартаючы старонкі выдання заўважаецца, што аўтары парупіліся ўключыць у слоўнікавы матэрыял спецыялістычную тэрміналогію, у тым ліку з галіны акружаючай нас тэхнікі, што дазволіць карыстальнікам папоўніць свой лексічны запас беларускімі тэрмінамі (беларускамоўныя жыхары Беласточчыны карыстаюцца на штодзень польскай тэхнічнай тэрміналогіяй). Пры лістанні гэтага лексікона трапіліся мне на вочы і некаторыя памылкі, якія не павінны былі здарыцца ў такога тыпу выданні. Напрыклад, на старонцы 399 дапушчана арфаграфічная памылка пры напісанні слоў **даязджаць, пад'язджаць** (у слоўніку: *даяжджаць, пад'яжджаць*). Разнабой наглядаецца і ў геаграфічных назвах, змешчаных пасля кожнай слоўнікавай часткі. Сумненні могуць выклікаць формы *Белград, Загрэб, Осло, Пірэнэі* (у менскіх слоўніках і энцыклапедычных выданнях: **Бялград, Заграб, Осла, Пірэнеі**). Відаць з-за карэктарскага недагляду выступаюць у слоўніку розныя запісы адной назвы, напрыклад: правільная — **Ціхі акіян** (стар. 368) і памылковая — *Ціхі Акіян* (стар. 615).

Слоўнік складзены вельмі празрыста, так што лёгка будзе ім карыстацца і вучням, і дарослым аматарам беларушчыны. Увагу прыцягвае таксама стараннае друкарскае афармленне, характэрнае такога роду выданням. Толькі цана можа ў не аднаго школьніка адбіць ахвоту набыць гэты слоўнік. У беластоцкай кнігарні „Акцэнт" каштуе ён 28,60 зл

**Ніва** (в.л)

* Teresa Jasińska, Albert Bartoszewicz, *Słownik białorusko-polski i polsko-białoruski*, Warszawa 1996, ss. 621.

## *Нам пішуць...*
## *Нас пытаюць...*

Добры дзень Сп. Прускі!

...Ваша газэта сёньня вельмі карысная для беларускае эміграцыі. Сёньня вельмі цяжка быць беларусам. Амэрыканскія беларусы не падтрымоўваюць адзін аднаго ў грамадзкай і палітычнай працы. Шмат менскіх беларусаў хочуць быць расейцамі, а карэнныя амэрыканцы вельмі мала пра нас ведаюць.

Ваша газэта ня толькі інфармуе нас, але і паказвае, што мы ўсе належым дэмакратычнай і незалежнай Беларусі. Мы павінны ўсе разам працаваць дзеля агульнага аб'яднаньня ўсіх беларусаў.

Дзякую за працу на карысьць нашага народу.

Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд.

З пашанай, Ю. К.

*Так, разьяднаньне нашых людзей, як у замежжы так і на Бацькаўшчыне, карысьці не прыносіць. Нажаль шмат хто гэтага не разумее... Дзякую за ахвяру і добрыя словы. Прысылайце адрасы нашых людзей, якія яшчэ ўсё топчуцца ля чужых парогаў...*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Нядаўна давялося мне прачытаць кніжку на расейскай мове «Бітва за Беларусь 1944-44» І. В. Цімаховіча. У сваёй кнізе сп. Цімаховіч вельмі высока хваліць партызанаў, а як было ў сапраўднасьці ён маўчыць. Колькі жыхары Беларусі пацярпелі ад партызанаў ведаюць мільёны, але ад страху маўчаць. Для прыкладу няма ў кнізе нічога пра тое, дзе партызаны бралі прадукты, коні, вазы, абутак, вопратку, хлеб і сала... Усё гэта рабавалі ў беларускіх вёсках начамі. А ўдзень немцы забіралі на іх патрэбы, што толькі маглі... У кнізе ёсьць пералік розных нацыянальнасьцяў, якія хаваліся ў нашых лясох. Гэта і беларусы і расейцы і ўкраінцы і палякі і чэхі і г.д. і г. д., але не ўспамінае аўтар пра шматлікіх жыдоўскіх (габрэйскіх) партызанаў. Відаць ён ня любіць жыдоў і таму іх не ўспамінае...

З пашанай, К. В.

*Гэтае кніжкі я не чытаў... Гэта адна з тых тэмаў, якая патрабуе дакладнага і праўдзівага вывучэньня, бо тое што напісалі савецкія «дасьледчыкі і вачавідцы», гэта ў сваёйаграмаднай большасьці самахвальства, нацяжка ды часамі выдумка. У гэтай справе слова за сапраўднымі гісторыкамі...*

Вельмі шаноўны М. Прускі!

Перасылаю сваю чарговую ахвяру на выдавецтва газэты «Беларускі Дайджэст», а таксама як дадатак ад др. В.М.

Праглядаючы гадавую Лісту ахвярадаўцаў, людзей добрае волі, за 1995-ы год, я налічыў толькі 12 асобаў з беларускага лягеру Ватэнштэт. Мне зрабілася соранна і сумна. Гэта-ж так многа было сьведамае беларускае моладзі ды і дарослага грамадзтва...

Хачу таксама адзначыць ды падзякаваць, асабліва Беларускаму Аб'еднаньню ў Пд. Аўстраліі, і асобам, якія ахвярна працавалі пры зборы грошай на Беларускі музэй у Гайнаўцы. А сабралі мы панад дзьве тысячы даляраў. Падзяка належыцца: Міколу Колес, Брыджыт Карпінскай, Галіне Кандрусік, матушцы Вользе Бурнос, Міколу Кандрусіку, Андрэю Карпінскаму ды ўсім тым, хто ахвяраваў на падпісную Лісту а. М. Бурноса.

Таксама дасылаю верш «Над небам Беларусі», можа яго зьмесьціце...

Хацелася-б выказаць некалькі слоў да суайчыньнікаў на Беларусі ды пацікавіцца, як яны цяпер жывуць пад гэтым русафілам — Лукашыкам... Перад выбарамі ён многа чаго абяцаў для беларускага народу. Абяцаў зьлiквiдаваць карупцыю, навесьці парадак, усіх да сыта накарміць каўбасою і г. д... Абяцанка — цацанка, а дурному радасьць... і нясьведамае народнае стада сьлепа пайшло за ім і ўтапілася ў эканамічнай бядзе і расейскім балоце. Жыцьцё пагоршала, бо ня толькі галодны жывот, але і душа галадае... бо для яе няма беларускае царквы, няма ў школах беларускае гісторыі, культуры, мовы, няма беларускіх нацыянальных сымвалаў: ні гэрба, ні сьцяга, ні гімна... Усё беларускае-роднае зьневажаецца, выкарчоўваецца, топчацца і народ павольна становіцца гноем для маскоўскага мужыка. Калі прачнецца беларускі народ ад сну несьвядомасьці, ды запытае сам сябе: кім я ёсьць, гноем ці народам?!.

Шчыра дзякую за добрую, патрыятычную і ахвярную працу на карысьць Беларусі...

М. Б.

*Дзякуем за ліст. Думкі выказаныя ў лісьце самі сабою зразумелыя. Верш друкуем:*

НАД НЕБАМ БЕЛАРУСІ

Над небам Беларусі  
дзьве чорныя хмары.  
Адна хмара "Сьвёнтэк",  
Друга "Лукашонтак".

Адна будзе польшчыць,  
Другая маскаліць.  
А волі ня будзе,  
Бо нас закабаляць...

Адна прышла з Польшчы,  
Другая з Расеі...  
Нясуць нам час горшы —  
Без сьвятла й надзеі.

Вось якіх суседзяў  
З прадвеку мы маем.  
І жыць зь імі мусім,  
Хоць іх праклінаем.

Лічацца сьвятымі,  
Ды ў грэшніках ходзяць.  
І верных беларусаў  
Да бяды даводзяць.

Паважаны Сп. Прускі!

Віншую Вас з днём 25 Сакавіка, нашага найбольшага нацыянальнага сьвята. Трэба маліцца Богу і прасіць помачы для нашага народа.

Дзякую за газэту, якая прыходзіць у пору. Вельмі добра, што Вы надрукавалі Лісту ахвярадаўцаў. Цяпер відаць хто дапамагае газэце. Залучаю ахвяру...

З пашанай, К. В.

*Дзякуем за Вашую памяць і ахвяру.*

Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую за хуткі адказ на мой ліст і пасылку газэты маім бацькам. Мне газэту пасылайце на той адрас, які Ў Вас ужо ёсьць. Я заўважыў, што падпіска на газэту адбываецца ў выглядзе ахвяраваньняў. Залучаю аплату за газэту для мяне і для маіх бацькоў... З пашанай, П. К.

*Дзякуем за Ваша сяброўства і добрую волю. Жадаем усяго найлепшага.*

Шаноўны Спадар М. Прускі!

У сувязі з артыкулам у № 3(27), «Як беларускія габрэі Ізраель стварылі» далучаю выразку з польскай газэты аб колькасьці жыдоў у сьвеце... Не магу зразумець, чаму беларусы не карыстаюцца сапраўдным назовам нацыі — жыды, а кожны часапіс дае ім свой назоў. Тут і ізраеліты, і еўрэі (расейскі назоў) і інш... Ад вякоў у беларускай мове ўжываецца назоў жыдоўскага народу, як жыды... Нічога благога тут няма. У менскай прэсе была кранутая гэтая справа, дзе выказвалася думка, што жыды нічога ня маюць супраць гэтага старога гістарычнага назову...

Чаму беларускія газэты не ўступаюць у паleміку з палякамі і іншымі суседзямі, якія падаюць фальшывыя даныя з гісторыі аб беларусах і Беларусі?..

Усім жадаю ўсяго найлепшага, А. Л.

*Закранутая Вамі справа вымагае навуковага і гістарычнага асэнсаваньня гэтае зьявы. Думаю, што раней ці пазьней нашы навукоўцы скажуць сваё важкае слова ў гэтай, такбы мовіць, заблытанай справе.*
*А так жадаем Вам усяго найлепшага.*

Паважаны Спадар Прускі!

Шчыра дзякую за газэту. Жадаю Вам усяго найлепшага, а галоўнае здароўя. Думаю, што ня толькі я з маладой эміграцыі, але ўсе нядаўна прыбылыя падтрымаюць Вас, бо мы ўсе цікавімся, што адбываецца на Беларусі. Залучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З глыбокай пашанай, М. П.

*За ўсё шчыра дзякуем.*

Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар!

Прыміце ахвяру на Вашую так папулярную газэту. "Беларускі Дайджэст" зьяўляецца адной з крыніц вестак з Беларусі, зь якой мы ў замежжы жадаем цесна быць зьвязаныя.

Хацелася-б бачыць на першай бачыне Вашай газэты і бел-чырвона-белыя колеры поруч з Пагоняй.

Жадаю Вам плённай працы, а нашым правадыром на Беларусі здаровага розуму ў кіраваньні нашай дарагой незалежнай Бацькаўшчынай. Жыве Сакавік! Жыве Беларусь! Аставайцеся з Богам!

З глыбокай да Вас пашанай, Ул. К.

*І Вам жадаем усяго найлепшага. Дзякуем!*




Маст. КАРПОВІЧ

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

# Як я пажартаваў і што з гэтага выйшла

Каля майго пад'езда на лаўцы з раніцы да вечара бавяць час бабулі. Пляткараць. Яны даўно ўжо абпаласкалі языком усіх суседзяў, іх дзяцей, сабак і катоў і цяпер пераключыліся на вельмі сур'ёзную тэму — на палітыку.

Спынілі мяне аднойчы:

— Кажуць, Зянон Пазьняк шпіёна ў гарсавет заслаў... І той лазіць ноччу на дах і вывешвае там фашысцкія сцягі. Дык злавілі таго шпіёна ці не?

— Не, — адказваю. І жартую: — Лавілі, лавілі, а ён узяў ды за мяжу збег.

— А куды?

— У Ізраіль...

— Мы так і думалі, што Пазьняк яўрэй. А, бач, пад беларуса замаскіраваўся. От жа злыдзень! Хацеў усіх нас яўрэям прадаць, — прыўзнялася з лаўкі рабаватая бабуля.

— І калгасы хацеў распусціць! — ўсхапілася другая.

— А я калгасную пензію палучаю... Калгас мне плоціць.

— Значыцца, хацеў і пенсію ў цябе адабраць! — выгукнула рабаватая.

— І адабраў бы, калі б да ўлады дарваўся, — ужо не на жарт усхадзілася старая. — От ірад пракляты! І чаму Лукашэнка не пасадзіць гэтага фашыста?

— Сталіна б на яго!

— Во-во, Сталіна! Ён доўга з ім не чыкаўся б! Не падсылаў бы ў Маладзечна шпіёнаў сцягі вывешваць! Самога павесілі б на бярозе...

Я не вытрымаў і пайшоў у пад'езд. Падымаўся па лесвіцы да сваёй кватэры і думаў: "Божухна, у якой я краіне жыву?!"




Малюнак Лявона БАРТЛАВА

## Беларусы папрасілі палітычнага прытулку ў Ірляндыі...

Сям'я Славашэўскіх, жыхароў беларускай сталіцы, папрасілі палітычнага прытулку ў Ірляндыі. Адбылося гэта падчас тэхнічнае пасадкі самалёту на рэйсе Масква-Гавана на лётнішчы ў Шэнноне. Між 12 пасажыраў розных нацыянальнасьцяў, якія папрасілі прытулку ў ірляндзкіх уладаў, была і сям'я Славашэўскіх.

Дзеля таго, што Беларусь ня мае дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Ірляндыі, у Шэнноне прыбыў другі сакратар беларускага пасольства ў Лёндане сп. Алег Якавіцкі... Аднак Славашэўскія не захацелі зь ім сустрэцца...

Якія матывы прымусілі беларускую сям'ю прасіць палітычнага прытулку ў Ірляндыі — невядома...